



# Рэгіянальная газета. Rh.by

rg_rhby
rh_by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

28 мая 2021 года №22 (1361)

18+


# З маладзечанскай гімназіі №7 звольнілі настаўніцу хіміі Наталлю Пашчук

## Яна – стыпендыят чатырох прэмій спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі

старонкі 18-19

Наталля Данілаўна Пашчук летам 2020 года ў Маладзечне.

Фота Настассі УТКІНАЙ.

### Што пра гэта кажуць калегі і былыя выпускнікі педагога?

- «Ганаруся, што знаёмая з такім чалавекам»
- «Кожны дзень мы сутыкаемся з выбарам, які ніхто не забудзе»
- «І за пазіцыю ёй дзякуй»
- «Настаўнік – гэта эталон сумленнасці, прыстойнасці і сацыяльнай адказнасці»

Што цяпер адбываецца з будслаўскім касцёлам
старонка 5

Раённыя выпускныя будуць, але не ва ўсіх
старонка 2

У Вілейцы знайшлі дахоўку пачатку 20 стагоддзя
старонка 24

Як у Маладзечне прайшла «Ноч музеяў»
старонка 21

ISSN 1991–7155




Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by





Падчас выпускнога па традыцыі выпускаюць галубоў.

# У рэгіёне сёлета 1760 юнакоў і дзяўчат заканчваюць 11 класаў

## Раённыя выпускныя будуць не ва ўсіх

**Ва ўпраўленнях адукацыі райвыканкамаў мы даведаліся, колькі выпускнікоў у рэгіёне сёлета заканчвае 11 класаў і ці ва ўсіх будуць раённыя выпускныя балі.**

### Дзе правядуць раённыя выпускныя

Раённыя выпускныя балі ў гарадах рэгіёна правядуць 10 чэрвеня. Аднак не ўсюды. У Мядзеле і Смаргоні з-за няпростай эпідсітуацыі раённае свята выпускнікоў вырашылі не праводзіць.

У Астраўцы раённага выпускнога не бывае ў прынцыпе. Тут іншая традыцыя. Звычайна ў дзень апошняга экзамену пасля абеду ладзяць мерапрыемства «Трыумф розуму і таленту». Старшыня райвыканкама ўганароўвае медалістаў і пераможцаў прадметных алімпіяд, віншуе, уручае ім статуэткі. Такая імпрэза будзе і сёлета. Месца пакуль удакладняюць. Звычайна сустрэча выпускнікоў са старшынёй райвыканкама **Ігарам Шалудзіным** адбываецца ў зале выканкама.

У Маладзечне, Вілейцы, Валожыне і Ашмянах раённыя выпускныя будуць. Тут па традыцыі адбудуцца шэсці выпускнікоў, узнагароджанне медалістаў і актывістаў, развітальны вальс.

Ва ўсіх гарадах свята адбудзецца на плошчах у цэнтры, у Маладзечне – у амфітэатры. Да ўсяго маладзечанскіх выпускнікоў чакае салют.

**Апошні званок для вучняў 11 класаў прагучыць 29 мая. Ад 1 да 9 чэрвеня яны будуць здаваць выпускныя экзамены.**

Нагадаем, што летась праз пандэмію выпускныя святы значна змянілі свой традыцыйны фармат. Пытанне па іх Міністэрства адукацыі рэкамендавала вырашаць кіраўнікам школ разам з бацькоўскім камітэтам. У выніку нідзе ў рэгіёне раённыя выпускныя не праводзілі.

Летась выпускнікоў было 1757.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

### Колькі выпускнікоў у рэгіёне

| Раён | Колькасць выпускнікоў |
|---|---|
| Маладзечна | 626 |
| Смаргонь | 266 |
| Вілейка | 198 |
| Астравец | 189 |
| Валожын | 171 |
| Ашмяны | 157 |
| Мядзел | 153 |
| **Усяго** | **1 760** |

## Ветрагенератараў стане больш

МАЛАДЗЕЧНА

«Зялёная» энергетыка развіваецца ў зоне абслугоўвання філіяла «Маладзечанскія электрычныя сеткі» РУП «Мінскэнерга». На сёння ва ўсіх адміністрацыйных раёнах, якія абслугоўваюцца філіялам, ужо працуюць ветраэнергетычныя устаноўкі. Усяго іх пакуль пяць, паведамляе РУП «Мінскэнерга».

Але ў бліжэйшы час паблізу вёсак Клочкава і Трэскі Маладзечанскага раёна плануюць завяршыць мантаж яшчэ дзвюх ветраўстановак.

У 2000 годзе Мядзельскі раён стаў першым, дзе выкарысталі энергію ветру. Устаноўка з'явілася каля Занарачы. Пасля тут дадаткова усталявалі яшчэ дзве ўстаноўкі 2002 і 2013 года пабудовы.

У 2015 годзе ў Вілейскім раёне ўвялі ў эксплуатацыю ветраўстаноўкі вёскі Макарычы, а ў Валожынскім раёне – каля вёскі Аўгустова.

**Аддзел інфармацыі.**

## Настаўнікі з рэгіёна перамаглі ў дыстанцыйнай алімпіядзе

У красавіку-маі ў шосты раз правялі дыстанцыйную алімпіяду для педагогаў. Днямі падвялі вынікі. Сярод пераможцаў ёсць прадстаўнікі рэгіёна, паведамілі ў галоўным упраўленні адукацыі Мінаблвыканкама. Гэта настаўнікі хіміі і гісторыі.

**Намінацыя «Прафесійная кампетэнтнасць педагога: настаўнік хіміі»**

**Таццяна Анатольеўна Лябёдка** з гімназіі №1 Валожына, **Іна Аляксандраўна Марушка** з гімназіі №3 Маладзечна – дыпломы 1 ступені.

**Алена Віктараўна Храмцэвіч** з гімназіі-каледжа мастацтваў Маладзечна, **Алена Анатольеўна Шчуцкая** з Гарадзілаўскай СШ – дыпломы 2 ступені.

**Алена Альбінаўна Роўда** з Мядзельскага ВПК «Яслі-сад – сярэдняя школа» – дыплом 3 ступені.

**Намінацыя «Прафесійная кампетэнтнасць педагога: настаўнік гісторыі»**

**Ірына Пятроўна Маліноўская** з гімназіі-каледжа Маладзечна – дыплом першай ступені.

**Алена Канстанцінаўна Бохан** і **Валянціна Канстанцінаўна Петрыкевіч** з гімназіі-каледжа Маладзечна, **Вольга Іванаўна Міхальчанка** з Мядзельскага ВПК «Яслі-сад – сярэдняя школа», **Сяргей Уладзіміравіч Очтаў** з Дорскага ВПК «Дзіцячы сад – сярэдняя школа», **Канстанцін Анатольевіч Рафеенка** з СШ №9 Маладзечна – дыпломы 2 ступені.

**Святлана Мікалаеўна Бабіч** з вілейскай гімназіі «Логас» – дыплом 3 ступені.

**Аддзел інфармацыі.**

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ




Фота nivea.ru.

Так выглядала першая бляшанка крэму «Нівея».

# Гісторыя знакамітага крэму пачыналася з пластыру

## Прыгадваем гісторыю нямецкага брэнда «Нівея»

**Ад 5 мая ўступіла ў сілу пастанова Савета Міністраў №240. Згодна з ёй для забеспячэння абароны нацыянальных інтарэсаў, «з улікам несяброўскіх дзеянняў у дачыненні да беларускага народа» ўрад устанавіў пералік тавараў, забароненых да ўвозу і рэалізацыі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Сярод забароненых тавараў – прадукты нямецкага брэнда са шматгадовай гісторыяй – «Нівея». Прапануем прыгадаць, як узнік і развіваўся брэнд.**

Гісторыя «Нівеі» пачыналася з пластыру. У 1882 годзе нямецкі фармацэўт Паўль Карл Байерсдорф вынайшаў лейкапластыр, а ўслед за сваім вынаходствам заснаваў кампанію «Баерсдорф», якая сёння з'яўляецца гігантам касметычнай прамысловасці.

Аднак у той час фабрыка, якая рабіла пластыр, зусім не прыносіла прыбытку. Тавар запасіўся на складах, паколькі гаспадар ні маркі не патраціў на рэкламу прадукту. Так працягвалася да 1890 года, пакуль Баерсдорф не прадаў сваё стратнае прадпрыемства маладому і энергічнаму Оскару Трапловіцу. Напорысты фармацэўт з Гамбурга падышоў да бізнесу па-гаспадарску, і справы кампаніі палепшыліся. Оскар распрацоўваў новыя тэхналогіі, надаваў шмат увагі маркетынгу і рэкламе, павялічваў выпуск прадукцыі.

Новая эра кампаніі наступіла з адкрыццём эўцэрыту – рэчыва, здольнага злучыць ваду, тлушч і актыўныя кампаненты і стварыць устойлівую эмульсію. Фармацэўт па адукацыі, Трапловіц своечасова зразумеў, што эўцэрыт адкрывае новыя магчымасці ў касметалогіі. Такім чынам, ён вырашыў стварыць ўвільгатняльны крэм на аснове эмульсіі.

Нараджэнне брэнда адбылося ў снежні 1911 года. Менавіта тады ў продаж паступіў крэм «Нівея». Назва з лацінскай мовы перакладаецца як «беласнежны». Першапачатковая ўпакоўка сусветна вядомага крэму адрознівалася ад звыклай для нас сіняй бляшанай упакоўкі. У той час крэм выпускаўся ў жоўтай упакоўцы, упрыгожанай раслінным арнаментам і мудрагелістым шрыфтам. Тым не менш, поспех найбуйнейшай міжнароднай карпарацыі «Баерсдорф» пачынаўся менавіта з увільгатняльнага крэму. І ў нашы дні візітнай карткай брэнда з'яўляецца тая самая бляшаная ўпакоўка.

Ужо ў 1914 «Баерсдорф» працаваў не толькі ў Германіі, але і прадаваў значную частку тавару за мяжой – у 34 краінах свету. На прадпрыемствах кампаніі працавала паўтара мільёна чалавек. Акрамя крэму, пластыраў і клейкіх стужак, пачынаецца выпуск мыла і парашку. Абнаўляецца і серыя «Нівея» – з'яўляюцца шампуні і сродкі для ўкладкі.

У 1925 годзе кіраўніцтва прадпрыемства рэзка мяняе дызайн упакоўкі і стыль рэкламнай кампаніі. На прылаўках з'явілася тая самая сіняя бляшаначка з белым лагатыпам. З тых часоў дызайн упакоўкі з крэмам практычна не мяняўся. У сіне-белай гаме афармляліся ўсе астатнія прадукты і друкаваная рэклама.

Падчас Другой сусветнай вайны кампанія забяспечвала сродкамі гігіены нямецкіх салдат. Сёння на месцы баёў часам знаходзяць характэрныя сінія бляшанaчкі. А яшчэ падчас вайны большасць краін, якія ваявалі з Германіяй, прысабечвалі правы на гандлёвую марку «Нівея». Неўзабаве пасля вайны кампанія «Баерсдорф» пачала выкупляць канфіскаваныя правы гандлёвай маркі. Працэс завяршыўся толькі ў 1997 годзе.

У 1950-1960-х гадах пашыраецца асартымент, у 1980-х ладзяцца гучныя рэкламныя акцыі. Першы сайт кампаніі з'явіўся ў 1996 годзе.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК паводле brandpedia.ru.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**14 600**

столькі новых кватэр пабудавалі ў Беларусі за студзень – красавік.

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 20.05 | 27.05 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.5161 | 2.5062 |
| Еўра | 3.0758 | 3.0687 |
| Злоты, 10 | 6.7846 | 6.8265 |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4146 | 3.4120 |
| Грыўня, 100 | 9.1724 | 9.0927 |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 20.05 | 27.05 |
| Еўра | 3.0200/3.1000 | 3.0200/3.1200 |
| Долар ЗША | 2.4800/2.5500 | 2.4750/2.5400 |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | 19.05 | 26.05 |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 24,93 | 24,93 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 4,40 | 4,40 |
| Сасіскі, 1 кг | 7,90 | 7,87 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | 9,00 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,50 | 4,50 |
| Селядзец, 1 кг | 6,80 | 6,80 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 18,90 | 18,90 |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,30 | 2,30 |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | 2,40 |
| Алей, 1 л | 4,90 | 4,90 |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | 4,80 |
| Маянэз, 400 г | 2,60 | 2,60 |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,80 | 1,80 |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 2,00 | 2,00 |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,40 | 2,40 |
| Агуркі, 1 кг | 2,40 | 2,40 |
| Баклажаны, 1 кг | 6,90 | 6,80 |
| Бульба маладая, 1 кг | 2,80 | 2,50 |
| Буракі, 1 кг | 1,20 | 1,20 |
| Капуста маладая, 1 кг | 1,50 | 1,70 |
| Морква, 1 кг | 1,80 | 1,80 |
| Памідоры, 1 кг | 4,90 | 3,90 |
| Перац, 1 кг | 6,90 | 8,50 |
| Радыс, 1 кг | 2,50 | 2,50 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | 1,20 |
| Часнок, 1 кг | 8,50 | 8,50 |
| Шампіньёны, 1 кг | 6,30 | 5,90 |
| Абрыкосы, 1 кг | – | 8,90 |
| Апельсіны, 1 кг | 2,90 | 4,90 |
| Бананы, 1 кг | 3,80 | 3,80 |
| Вінаград, 1 кг | 9,50 | 8,90 |
| Грушы, 1 кг | 5,50 | 5,50 |
| Кавун, 1 кг | – | 1,50 |
| Клубніцы, 1 кг | 15,00 | 12,00 |
| Лімон, 1 кг | 4,90 | 4,90 |
| Мандарыны, 1 кг | 4,50 | 3,50 |
| Нектарыны, 1 кг | 11,00 | 7,50 |
| Чарэшні, 1 кг | 23,00 | 11,90 |
| Яблыкі, 1 кг | 2,30 | 2,30 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,70 | 1,70 |
| Масла, 1 кг | 18,00 | 18,00 |
| Сала, 1 кг | 13,00 | 13,00 |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | 14,00 |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | 8,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | 4,00 |

## П’яны кіроўца-бяспраўнік зладзіў начныя гонкі

**МАЛАДЗЕЧНА**

24 мая каля чатырох гадзін паблізу АЗС на вуліцы Міру ў Маладзечне супрацоўнікі ДАІ заўважылі аўтамабіль «Аўдзі-80». Інспектары падалі сігнал спыніцца, аднак кіроўца праігнараваў неаднаразовыя патрабаванні і, павялічыўшы хуткасць, спрабаваў схавацца. Міліцыянеры, уключыўшы светлавую і гукавую сігналізацыю, пачалі пераслед аўтамабіля. Інфармацыю пра здарэнне перадалі ўсім нарадам міліцыі.

Спачатку кіроўца выехаў на Вялікі Гасцінец, ледзь не пратараніўшы машыну таксі на скрыжаванні. Далей праімчаўся па Гасцінцы, віляючы з боку ў бок, і звярнуў на аднабаковую вуліцу Хмяльніцкага супраць напрамку руху. Тут ехаў па тратуары. Затым парушальнік паехаў на вуліцу Талстога і па сустрэчнай выехаў на Цэнтральную плошчу. Пасля чаго зноў апынуўся на Вялікім Гасцінцы. На праезнай частцы, насупраць галоўнага ўвахода ў парк культуры і адпачынку, супрацоўнікі Маладзечанскага аддзела Дэпартамента аховы блакавалі аўтамабіль. Кіроўца не справіўся з кіраваннем – машыну развярнула, і яна ўрэзалася ў агароджу. Супрацоўнікі ДАІ затрымалі ліхача і даставілі ў РАУС. У ходзе разбору ўстанавілі, што за рулём аўтамабіля быў 20-гадовы жыхар Алёхнавічаў, у крыві якога ўтрымлівалася 1,36 праміле алкаголю. Малады чалавек не мае правоў на кіраванне аўтамабілем і ў 2020 годзе ўжо прыцягваўся да адказнасці за язду без правоў.

Аказалася, што аўтамабілем у п’яным выглядзе малады чалавек кіраваў і пад уздзеяннем эмоцый. У тую ноч, па словах самога кіроўцы, ён пасварыўся з дзяўчынай і сеў за руль. А гонкі ладзіў у надзеі адарвацца ад ДАІ, каб пазбегнуць адказнасці, але яму гэта не ўдалося. У выніку машыну забралі на штрафстаянку, у дачыненні да ліхача склалі восем пратаколаў.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Чатырох мужчын асудзілі на «хімію» і калонію за крадзяжы аўто

**МАЛАДЗЕЧНА**

17 мая суд Маладзечанскага раёна разгледзеў справу аб крадзяжы групай асоб. Мужчынам прысудзілі «хімію» і пазбаўленне волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Два мужчыны былі раней не судзімыя, адзін прыцягваўся да крымінальнай адказнасці пяць разоў, яшчэ аднаго раней таксама судзілі.

Мужчын абвінавачвалі ў крадзяжы па папярэднім змове групай асоб. Ад снежня 2020 года да лютага 2021 года яны кралі з аўтамабіляў у Маладзечне.

Двое мужчын, раней не судзімыя, прызналі вінаватымі ў крадзяжы і замаху на крадзеж. Іх пакаралі двума гадамі «хіміі» з накіраваннем у папраўчую ўстанову. Мужчын вызвалілі з-пад варты пад падпіску аб нявыездзе ў зале суда.

Абвінавачанаму, якога раней адзін раз прыцягвалі да крымінальнай адказнасці, прысудзілі тры месяцы арышту. Чацвёртага фігуранта, якога раней судзілі пяць разоў, пакаралі годам калоніі ўзмоцненага рэжыму. Прысуд законнай сілы не набыў. Ён можа быць абскарджаны і апратэставаны.

**Паводле прэс-службы Мінскага абласнога суда.**

## Зніклага мужчыну знайшлі загінулым

**ВАЛОЖЫН**

Пра знікненне мужчыны ў лесе ў Валожынскім раёне 24 мая паведамілі валанцёры.

Згодна з паведамленнем, пенсіянер з вёскі Сівіца знік 23 мая. Пра знікненне 77-гадовага мужчыны ў МНС паведамілі сваякі 23 мая, у 21:05.

Як стала вядома, 24 мая зніклага пенсіянера знайшлі загінулым у вадаёме побач з вёскай.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Мужчына тушыў пажар і абгарэў

**АСТРАВЕЦ**

24 мая каля 15 гадзін астравецкія выратавальнікі атрымалі паведамленне пра пажар.

Гарэла кватэра ў аднапавярховым жылым доме на Савецкай, які належыць Астравецкаму райвыканкаму.

39-гадовы мужчына, які жыў у кватэры, спрабаваў патушыць пажар самастойна. У выніку яго шпіталізавалі з апёкамі. Прычыну пажару высвятляюць.

**Паводле МНС.**

# Нецвярозы бяспраўнік учыніў смяротнае ДТЗ і ўцёк на таксі

## Завяршылі расследаванне справы

**Днямі Мінскі раённы аддзел Следчага камітэта завяршыў расследаванне крымінальнай справы ў адносінах да 35-гадовага жыхара Маладзечна, работніка гарадскога прыватнага прадпрыемства.**



Фота забяспечанае Аленай КРУПЕНІНАЙ.

Аўтамабіль, на якім учынілі смяротнае ДТЗ.

**МАЛАДЗЕЧНА**

Пра гэта паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Алена Крупеніна**. Мужчына на машыне насмерць збіў раварыста і ўцёк з месца здарэння.

Па дадзеных следства, летась днём 12 снежня паступіла паведамленне пра смяротнае траўмаванне раварыста каля вёскі Шчарбіны Мінскага раёна. Падчас агляду месца здарэння аператыўна-следчая група канфіскавала пашкоджаны ровар і рэгістрацыйны знак ад аўтамабіля, які ўчыніў ДТЗ. Супрацоўнікам ДАІ паступіла інфармацыя, што кіроўца, які наехаў на раварыста, збег і, меркавана, накіраваўся ў бок Маладзечна.

Дзяржаўтаінспектары перакрылі рух на ўездзе ў горад, каб затрымаць парушальніка. У адным са спыненых аўтамабіляў таксі па арыенціроўцы пазналі падазраванага, таксама ў салоне таксі была яго жонка. Тады мужчына растлумачыў, што яго машына дома, а ён вяртаецца з Мінска, дзе купляў аўтазапчасткі.

Як пазней установяць следчыя, у той дзень 35-гадовы мужчына, кіруючы аўтамабілем «Рэно-Лагуна» ў стане алкагольнага ап’янення, не маючы пасведчання кіроўцы, ехаў па аўтадарозе Мінск – Маладзечна – Нарач. У аўтамабілі была і яго 30-гадовая жонка. Паблізу вёскі Шчарбіны мужчына ехаў па ўзбочыне, дзе наехаў на раварыста, які ад атрыманых цялесных пашкоджанняў памёр на месцы здарэння. Цялесныя пашкоджанні атрымала і пасажырка аўто. У яе – непапраўнае знявечанне твару.

Кіроўца, не спыняючыся, пакінуў месца здарэння. Аўтамабіль знойдуць пазней паблізу суседняй вёскі. Перш чым пакінуць машыну, мужчына сказаў жонцы сцерці адбіткі пальцаў у аўтамабілі.

На таксі муж і жонка накіраваліся ў бок Маладзечна, аднак даехаць не паспелі – па дарозе іх спынілі супрацоўнікі ДПС АДАІ Маладзечанскага РАУС.

Следчыя дапыталі абвінавачанага і сведак. Вывучылі і далучылі да матэрыялаў крымінальнай справы больш за 15 заключэнняў экспертаў. Правялі следчы эксперымент. На допыце мужчына раскаяўся і прызнаў сябе вінаватым. Растлумачыў, што ў дзень злачынства разам з жонкай выпіваў, пасля чаго яны паехалі ў Мінск па запчасткі.

Паводле экспертызы, у кіроўцы канцэнтрацыя пароў этылавага спірту ў выдыханым паветры склала 2,38 праміле алкаголю. Раней фігурант быў неаднаразова судзімы за кіраванне ў п’яным стане, а таксама за крадзяжы. За паўгода да ДТЗ ён вызваліўся з месцаў пазбаўлення волі.

Па выніках расследавання дзеянні 35-гадовага мужчыны кваліфікаваныя па наступных артыкулах Крымінальнага кодэкса:

– частцы 4 артыкула 317 – парушэнне правілаў дарожнага руху асобай, якая кіравала машынай у стане алкагольнага ап’янення, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека і прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання;

– частцы 2 артыкула 317-1 – кіраванне асобай, якая знаходзіцца ў стане алкагольнага ап’янення, учыненае асобай, якая раней учыніла злачынства, прадугледжанае артыкулам 317-1;

– артыкула 417 – ухіленне асуджанага ад выканання прысуду суда аб пазбаўленні права займацца пэўнай дзейнасцю.

Мужчыну заключылі пад варту.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Кіроўца атрымаў траўму, выходзячы з машыны

**СМАРГОНЬ**

25 мая ў Смаргоні адбылася аварыя. У ёй пацярпеў кіроўца, які выходзіў з салона аўтамабіля.

Каля паловы дванаццатай дня 69-гадовы кіроўца «Міцубісі» рухаўся заднім ходам па дваровай тэрыторыі на вуліцы Дзяругі. Мясцовы жыхар праявіў няўважлівасць і сутыкнуўся з аўтамабілем, які стаяў у двары. «Міцубісі» стукнулася ў левыя пярэднія дзверы, з якіх выходзіў кіроўца.

43-гадовы мужчына атрымаў цялесныя пашкоджанні – пералом нагі. Пасля аказання медыцынскай дапамогі яго адпусцілі дадому. Па факце здарэння праводзіцца праверка.

**Паводле УУС Гродна.**

## Пачалася акцыя «Увага! Дзеці»

Ад 25 мая да 5 чэрвеня па ўсёй краіне пройдзе спецыяльнае комплекснае мерапрыемства «Увага! Дзеці». Згодна з пунктам 166.9 ПДР, у перыяд правядзення спецыяльнага комплекснага мерапрыемства неабходна ўключыць блізкае святло фар падчас руху ў светлы час сутак.

За чатыры месяцы бягучага года ў Мінскай вобласці адбылося 18 ДТЗ з удзелам непаўналетніх, у выніку якіх 22 дзіцяці траўмаваныя. Такіх здарэнняў зарэгістравана на 14,3% менш у параўнанні з аналагічным перыядам 2020 года. Назіраецца зніжэнне загінулых дзяцей і рост пацярпелых. Па віне саміх непаўналетніх здарыліся два ДТЗ.

Найбольш цярпяць дзеці-пасажыры. У 10 ДТЗ пацярпелі 13 дзяцей. Прычым з дзесяці ДТЗ у сямі дзеці не былі прышпіленыя рамянямі бяспекі і перавозіліся без аўтакрэслаў. З удзелам дзяцей-пешаходаў адбылося сем ДТЗ, у якіх сямёра дзяцей атрымалі траўмы.

Дзецям неабходна тлумачыць, што, нават маючы перавагу на пешаходным пераходзе, пешаход абавязаны быць вельмі ўважлівым, асцярожным, не адцягваць увагу пры пераходзе дарогі, абавязкова глядзець па баках, выключыць размовы па мабільным тэлефоне і перастаць карыстацца навушнікамі, не ствараць перашкоды для руху аўто. Будзьце станоўчым прыкладам на дарозе. Не пакідайце без нагляду малалетніх, нагадвайце старэйшым дзецям, як паводзіць сябе на дарозе і ў транспарце.

**Дыяна ГАЛУЗА, АДАІ Маладзечна.**

# Што адбываецца з касцёлам у Будславе праз некалькі тыдняў пасля пажару

**Праца валанцёраў, ксёндз у якасці будаўнічага брыгадзіра і гістарычныя асаблівасці мядзельскага мястэчка – усё гэта пабачылі карэспандэнты «Рэгіянальнай газеты». Мы адправіліся на выхадныя ў Будслаў, каб паглядзець, што цяпер адбываецца з касцёлам.**



Валанцёры скідваюць мяхі з абгарэлымі рэшткамі даху.

## Ксёндз цяпер будаўнічы брыгадзір

У суботу, 22 мая, у Будславе дажджлівая раніца. Загадзя было аб'яўлена, што валанцёраў, якія хочуць дапамагчы ў аднаўленні, чакаюць у дзевяць раніцы каля касцёла.

Ксёндз **Дзмітрый Дубовік** ад самай раніцы знаходзіцца непадалёк ад касцёла. Ён не ў звыклай расе, а ў джынсах і куртцы колеру хакі. Святар кіруе працай валанцёраў: расказвае, што і як рабіць, абходзіць час ад часу касцёл.

**– Заходзіць у касцёл нельга, але магу сказаць, што сітуацыя значна палепшала: вільготнасць стала меншай, мы амаль скончылі прыбіраць рэшткі згарэлага даху, – расказвае Дубовік.**



Мяхі з рэшткамі збіраюць і адвозяць да агульнай кучы ў некалькіх дзясятках метраў ад касцёла.



Часова прыхаджане моляцца ў маленькім пакоі ў будынку побач з касцёлам.

На даху касцёла працуюць некалькі чалавек. Яны збіраюць рэшткі згарэлых матэрыялаў, кладуць іх у мяшкі і скідваюць з даху. Ужо на зямлі мяшкі грузяць на прычэп і адвозяць за пару дзясяткаў метраў ад будынка касцёла. Там ляжаць дзве гары: абгарэлыя бярвёны і вялікія лісты медзі.

Праз некалькі дзён, 25 мая, стане вядома, што дах касцёла ачысцілі. У Будславе пачаліся працы па ўстаноўцы часовага даху, закрыццю купала і кансервацыі сцен.

## Валанцёры

Валанцёр **Аляксандр**, які працуе ў нафтагазавай галіне, прыехаў у суботу дапамагчы з аднаўленнем касцёла. Пра валанцёрства даведаўся праз адмысловы тэлеграм-канал «Адновім Будслаў разам».

– Я прыехаў сюды дапамагаць у першую чаргу таму, што я неабыякавы беларус, – дзеліцца Аляксандр.

Аляксандр прыехаў, як і большасць астатніх валанцёраў, да дзевяці раніцы да касцёла. Там яго сустрэлі і расказалі, што трэба рабіць.

Усяго валанцёраў у Будславе працуе ў суботу некалькі дзясяткаў, некаторыя прыехалі разам з дзецьмі. У кожнага свае абавязкі, яны ўсе раздзеленыя на некалькі груп, якія звязваюцца паміж сабой праз рацыі. Для валанцёраў прадугледжаны абед.

## «Гэта нядрэнная нагода для салідарнасці»

У Будславе у суботу прыехаў і краязнаўца **Кастусь Шыталь**. Ён падзяліўся з карэспандэнтамі «Рэгіянальнай газеты» сваімі ўяўленнямі пра падзеі з будслаўскім касцёлам і расказаў гісторыю гэтых мясцін.

– На маю думку, гэта нядрэнная нагода для салідарнасці. Нагода для людзей яшчэ раз скінуцца грашыма і працай. Уявіце сабе, дзвесце тысяч долараў за дзесяць дзён сабралі. Гэта агульнанацыяльная справа, тое, што нас аб'ядноўвае.

Шыталь не лічыць, што пажар у будслаўскім касцёле – гэта трагедыя. Па яго словах, гэта матэрыяльныя страты.

– Некаторыя людзі выкарыстоўваюць слова «трагедыя» для абазначэння, але, па сутнасці, гэта матэрыяльныя страты.

Пажар у будслаўскім касцёле здарыўся 11 мая. У касцёле значна абгарэў дах. Пажарныя тушылі пажар некалькі гадзін. Следчы камітэт узбудзіў крымінальную справу аб парушэнні правілаў пажарнай бяспекі. За два тыдні на аднаўленне будслаўскага касцёла людзі ахвяравалі больш за 440 тысяч рублёў.

Калі вы хочаце дапамагчы, то можаце звязацца з ксяндзом Дзмітрыем **+375(29)275-40-36** альбо з Яўгенам Апанасевічам **+375(29)654-38-17**.



Тэкст і фота –
**Настасся УТКІНА**
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06




# ПРЫВАТНЫЯ АБ’ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб’яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03.** |
| | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **2-49-65, 2-49-70.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16.** |

## ВІНШАВАНКА

**22 мая вязень фашысцкіх канцлагераў, герой публікацый «Рэгіянальнай газеты», жыхар Вілейшчыны з вёскі Мардасы Іосіф Пятровіч ДАРОЖКА адзначыў сваё 90-годдзе.**



Віншую яго з юбілейным днём народзінаў і жадаю ўсяго самага найлепшага, а самае галоўнае, моцнага здароўя і доўгіх год жыцця! Са святам, шаноўны Іосіф Пятровіч!

**З павагай, Алесь Раткевіч.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Мазда-323, 1991 г.в., на хаду, можна на запчасткі. Т. (8-033) 6382159, (8-0176) 541322.*

• Мазда-626 GF, 1998 г.в., хэтчбэк, па запчастках. Ёсць амаль усё, добры рухавік. Т. (8-025) 6240203.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўтамабіль аварыйны альбо з праблемамі. Эвакуатар бясплатна. Т. (8-029) 9085343.*

• Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус, грузавік, трактар, пагрузчык. Т. (8-029)5524004.*

• Аўто 1,0 – 5,0 л у любым стане. Тэрмінова! (срочно). Т. (8-029) 7088846.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Іншамарку ў любым стане, можна не на хаду. Забяру сам. Т. (8-029) 5377786.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-033) 3631161, (8-029) 1236722.*

• Матацыкл МТ-9, К-750, Ява, Урал, запчасткі. Т. (8-029) 7539459.

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Міру, 5/5, 1988 г.п., 61,3 кв.м (панэльны дом). Т. (8-029) 7680884.*

• 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні. Т. (8-029) 9102779, (8-029) 6045022.

• Дача ў с/т «Магістраль», мядзельскі напрамак, раён в. Лазавец, рублены дом. Т. А1 (8-029) 6243966.*

• Дом №54 у в. Тураўшчына Вілейскага раёна. Дом без рамонту. Т. МТС (8-029) 8206313.

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

• Дом у в. Данюшава Смаргонскага раёна. Цана дагаворная. Т. (8-033) 6476869.*

• Дом у в. Слабодка Маладзечанскага раёна, 0,17 га, гараж, лазня, гаспадарчыя пабудовы. Т. (8-029) 7517853 МТС, (8-044) 7533213.*

• Кватэра ў новабудоўлі Маладзечна. Т. (8-029) 9439184.*

• Участак у в. Чыжэвічы Вілейскага раёна, 15 сотак, вул. Чыжэвіцкая, 9-б. 500 м ад Вілейскага вадасховішча. Побач лес. Па вуліцы праведзены прыродны газ. Т. (8-029) 6686477.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Жывая музыка. Тамада. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Грузаперавозкі да 2 т. ІП Ковель М.Б. УНП 690690062 Т. (8-029) 7647716.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ**. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245.

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Дах любой складанасці. Хутка. Якасна. Нядорага. ІП Касевіч С.Л. УНП 591822291. Т. (8-029) 3042976, (8-025) 5422115.*

• Дах пад ключ. Мантаж новага, замена старога. Матэрыялы. Дастаўка. Гарантыя. ІП Капцюг Р.П. УНП 692252550. Т. (8-029) 5580884,(8-029) 9382802.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, А (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*

• Свідраванне (сверление) адтулін (отверстий) у бетоне, цэгле, камені пад каналізацыю, водаправод, вентыляцыю. ІП Варывончык В.А. УНП 692245096 Т. (8-029) 9085343.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Усё для даху і агароджы. Маладзечна, вул. Л.-Роменская, 153-а. ІП Барчан П.І. УНП 692017128. Т. (8-0176) 580400, (8-029) 2345641.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Трактар МТЗ-80, прычэп 2ПГС-4, касілка-бруска. Тэхніка знятая з уліку. Выдатны стан. Т. (8-033) 3344259, (8-0176) 526517 дамашні.

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**



**Іншае**

• Дзіцячыя вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.), ровар для двайні або пагодак (40 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Расада памідораў. Цана дагаворная. Т. (8-029) 2790242, (8-033) 3131651.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Раі, пчол. Т. (8-029) 8742957.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Бульбу. Т. (8-029) 7642123 МТС.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Вадзіцель-міжнароднік кат. С Е. ІП Грамыка С.В. УНП 691293914. Т. (8-044) 7568967.

• Сядзелка. Маладзечна. Т. (8-029) 7664915.*

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Кладка печаў, камінаў. Дэмантаж. Фундамент. Т. (8-029) 3279874.

• Шукаю работу па рамонце ў драўляных дамах ніжніх вянцоў. Рамонт і аднаўленне фундаментаў, дахаў. Т.(8-029) 8745410.*

• Шукаю работу па рамонце халадзільнікаў, маразільнікаў. Запраўка фрэонам. Т. (8-029) 3395974.*

# Чай, кава, малако, бялізна, абутак

## Глядзіце, якія тавары пачнуць маркіраваць ад ліпеня

**Зацвердзілі пералік тавараў, якія ад 8 ліпеня будуць падлягаць абавязковай маркіроўцы ўніфікаванымі кантрольнымі знакамі (далей – УКЗ) і сродкамі ідэнтыфікацыі (далей – СІ).**

Зацвярджэнне такога пераліку накіраванае на рэалізацыю Указа Прэзідэнта ад 1 чэрвеня 2021 года №9 «Аб змяненні ўказаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь» далей – Указ №9, які прадугледжвае новы механізм маркіроўкі тавараў. Разгледзім названы пералік больш падрабязна.

### Пералік тавараў, якія падлягаюць маркіроўцы УКЗ

Ад 8 ліпеня маркіроўцы УКЗ, напрыклад, будуць падлягаць

– кава смажаная і нясмажаная, з кафеінам або без кафеіну масай-нета не менш за 25 грамаў у спажывецкай упакоўцы – код ТН ЗЭД ЕАЭС з 0901;

– чай са смакава-пахучымі дадаткамі або без іх масай-нета не менш за 25 грамаў у спажывецкай упакоўцы – код ТН ЗЭД ЕАЭС з 0902;

– сокі фруктовыя (уключаючы вінаградныя сусла) і сокі з агародніны, нязброджаныя, без утрымання дабавак спірту, з цукрам і без яго альбо іншых падсалоджвальных рэчываў у спажывецкай упакоўцы большай за 0,25 літра – код ТН ЗЭД ЕАЭС з 2009;

– прынтары, за выключэннем былых ва ўжыванні – код ТН ЗЭД ЕАЭС з 8443 32 100 9;

– тэлевізары, за выключэннем былых ва ўжыванні – код ТН ЗЭД ЕАЭС з 8528.

Ні для аднаго віду тавараў не прадугледжанай неабходнасць маркіраваць яго рэшткі УКЗ. Тэрмін «упакоўка» неабходна ўжываць у значэнні, устаноўленым тэхнічным нарматыўным прававым актам.

Пры вызначэнні, трапляе тавар ці не ў названы пералік, неабходна кіравацца як кодам ТН ЗЭД ЕАЭС, так і найменнем тавару. Асаблівасці маркіроўкі тавараў УКЗ выкладзеныя ў Палажэнні аб маркіроўцы тавараў, зацверджаным Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 10 чэрвеня 2011 №243 «Аб маркіроўцы тавараў».

### Пералік тавараў, якія падлягаюць маркіроўцы сродкамі ідэнтыфікацыі (СІ)

Маркіроўка тавараў СІ будзе ўводзіцца паэтапна. Ад 8 ліпеня маркіроўцы, напрыклад, будуць падлягаць:

– марожанае і іншыя віды харчовага лёду, якія з какавай і без яе (код ТН ЗЭД ЕАЭС 2105 00);

– сыры (код ТН ЗЭД ЕАЭС з 0406, за выключэннем 0406 10 500).

Маркіроўцы не будзе падлягаць любая малочная прадукцыя:

– аб'ёмам 20 літраў і больш альбо вагой 20 кілаграмаў і больш ва ўпакоўцы, прызначанай для шматразовага прымянення да яе расфасоўкі ў спажывецкую ўпакоўку прамысловым спосабам;

– маса-нета якой складае 30 грамаў і менш, а таксама спакаваная непрамысловым спосабам у аб'ектах рознічнага гандлю, дзіцячае харчаванне для дзяцей да трох гадоў і спецыялізаванае дыетычнае лячэбнае і прафілактычнае харчаванне.

Ад 1 верасня маркіроўцы СІ будуць падлягаць:

– малако і вяршкі, нязгушчаныя і без дадавання цукру альбо іншых падсалоджвальных рэчываў, мінімальны тэрмін захоўвання якіх больш за сорак сутак (код ТН ЗЭД ЕАЭС з 0401);

– тварог, тэрмін захоўвання якога больш за сорак сутак (код ТН ЗЭД ЕАЭС 0406 10 500);

– масла і іншыя тлушчы і масла, выраблены з малака; малочныя пасты, тэрмін захоўвання якіх больш за сорак сутак (код ТН ЗЭД ЕАЭС з 0405).

З 1 лістапада маркіраваць трэба будзе абутак:

– воданепранікальны абутак з падэшвай і з верхам з гумы або пластмасы, верх якога не мацуецца да падэшвы і не злучаецца з ёй ні нітачным, ні шпілечным, ні цвікавым, ні шрубавым, ні заклёпачным, ні якімнебудзь іншым аналагічным спосабам (код ТН ЗЭД ЕАЭС 6401);

– іншы абутак з падэшвай і з верхам з гумы або пластмасы (код ТН ЗЭД ЕАЭС 6402);

– абутак з падэшвай з гумы, пластмасы, натуральнай або кампазіцыйнай скуры і з верхам з натуральнай скуры (код ТН ЗЭД ЕАЭС 6403).

Маркіроўка рэштак вышэй названага абутку прадугледжаная да 1 сакавіка 2022 года.

Ад 1 снежня маркіроўцы СІ будуць падлягаць:

– малако і вяршкі, згушчаныя або з дадаваннем цукру ці іншых падсалоджвальнікаў з тэрмінам захоўвання да сарака сутак (код ТН ЗЭД ЕАЭС з 0402);

– тварог, тэрмін захоўвання якога да сарака сутак (код ТН ЗЭД ЕАЭС 0406 10 500);

– шыны пнеўматычныя гумовыя новыя і такія ж пакрышкі для легкавых аўтамабіляў, уключаючы грузапасажырскія аўтамабілі-фургоны і спартыўныя аўтамабілі, з пасадачным дыяметрам не больш за 16 цаляў (код ТН ЗЭД ЕАЭС з 4011 10 000 3).

Рэшткі вышэй названых шын трэба будзе маркіраваць у тэрмін да 1 красавіка 2022 года.

Ад 1 сакавіка 2022 года маркіроўцы СІ, напрыклад, будуць падлягаць:

– паліто, паўпаліто, накідкі, плашчы, курткі (уключаючы лыжныя), вятроўкі, штармоўкі і аналагічныя вырабы мужчынскія або для хлопчыкаў, акрамя вырабаў тарнай пазіцыі 6203 (код ТН ЗЭД ЕАЭС з 6201);

– бялізна пасцельная, сталовая, туалетная і кухонная (код ТН ЗЭД ЕАЭС з 6302).

Рэшткі гэтых тавараў трэба будзе маркіраваць да 1 ліпеня 2022 года.

З дакументамі, што датычацца маркіроўкі тавараў, можна пазнаёміцца на сайце Міністэрства па падатках і зборах, на сайце Маладзечанскага райвыканкама «Molodechno. Minsk-region.by» у рубрыцы «Падаткаабкладанне», у падатковай інспекцыі, а таксама ў кантакт-цэнтры Міністэрства па тэлефоне: **(8-017) 229-79-79.**

**Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах па Маладзечанскім раёне.**

# Усё пачалося са школьнага конкурсу «Міс Абаяльнасць»

## Віляйчанка рыхтуецца да ўдзелу ў абласным конкурсе прыгажосці

ВІЛЕЙКА

**На абласным конкурсе прыгажосці Вілейку прадставіць Алена Велюць.**

Віляйчанка, якая сёлета заваявала тытул «Міс Вілейка», вучыцца на трэцім курсе ў Беларускім дзяржаўным універсітэце фізічнай культуры. Яе будучая спецыяльнасць – інструктар-метадыст па аздараўленчай фізічнай культуры і выкладчык фізкультуры.

На пытанне, чаму вырашыла паўдзельнічаць у конкурсе «Міс Беларусь», адказ Алены такі:

– У шостым класе выйграла школьны конкурс прыгажосці «Міс Абаяльнасць». Адсюль усё і пачалося. Ужо студэнткай выйграла ўніверсітэцкі конкурс прыгажосці і падобны конкурс у студэнцкім інтэрнаце. Калі прапанавалі паўдзельнічаць у Вілейцы, падумала: "Чаму б і не". Так і трапіла.

Дзяўчыну падтрымлівала сям'я – гэта мама, тата і два браты. А таксама жаніх і сяброўка. Алена прыгадвае, што перамога на раённым конкурсе прыгажосці ў Вілейцы стала нечаканай, прыемнай і радаснай:

– Пачуўшы вынікі конкурсу, радаваліся ўсёй вялікай сям'ёй. Я ішла толькі за перамогай. І на вобласць таксама іду за перамогай. У гэтым мяне падтрымліваюць родныя. А мама ўвогуле кажа: «Ніякіх другіх месцаў у нас быць не можа».

Віляйчанка ўжо рыхтуецца да абласнога конкурсу «Міс Міншчына», які пройдзе 28 мая ў Барысаве. Да выступлення ладзілі некалькі рэпетыцый. Таксама да конкурсу ў Барысаве трэба было падрыхтаваць уборы:

– Набыла дзве пары бэжавых туфляў-лодачак. Такі абутак – умова арганізатараў. Напракат брала дзве сукенкі. Выдаткі атрымаліся немаленькія.

Што хвалюе Алену перад выступленнем? Вялікая колькасць прыгожых дзяўчат-удзельніц і дэфіле ў купальніку. А яшчэ дзяўчына прызналася: хвалюецца, каб не паваліцца на сцэне.

– Досвед удзелу ў падобных конкурсах для мяне патрэбны. Вучуся натуральна трымаць сябе на сцэне, менш хвалявацца на публіцы. Саперніцы – усе дастойныя, але Вілейка павінна быць наперадзе, – падсумавала Алена.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Фота забяспечанае гераіняй публікацыі.

Алена Велюць падчас падрыхтоўкі да конкурсу «Міс Міншчына».

# Дайджэст. Пасадка самалёта і арышт журналіста, міжнародныя санкцыі і забарона пералётаў над Беларуссю

**«Рэгіянальная газета» расказвае аб актуальных падзеях і навінах у Беларусі і свеце.**

### У Мінску пасадзілі самалёт Афіны-Вільня

23 мая ў Мінску пасадзілі самалёт авіялініі Ryanair Афіны-Вільня. Самалёт сеў у Мінску праз паведамленні ад беларускіх авіядыспетчараў аб «мініраванні». У самалёце знаходзіўся былы рэдактар тэлеграм-канала, які восенню 2020 года прызналі экстрэмісцкім, **Раман Пратасевіч**. Пратасевіч ляцеў з Афінаў разам са сваёй дзяўчынай, грамадзянкай Расіі **Сафіяй Сапегай**.

Пілоты рэйса атрымалі паведамленне ад беларускіх авіядыспетчараў, што самалёт можа быць замініраваны. Паведамлялася, што рэйс Афіны-Вільня частку часу на тэрыторыі Беларусі суправаджаў беларускі баявы знішчальнік. Самалёт кампаніі Ryanair сеў у аэрапорце ў Мінску.

Паведамленне аб мініраванні не пацвердзілася. Пазней Міністэрства транспарту расказала, што паведамленне прыйшло па электроннай пошце і ў ім гаварылася аб мініраванні ад імя ХАМАС (палесцінскі рух, які правіць у сектары Газа) і ўзрыве бомбы над Вільняй з-за палесціна-ізраільскага канфлікту.

Рамана Пратасевіча і Сафію Сапегу арыштавалі. Пратасевіч знаходзіцца ў следчым ізалятары, Сапега – у ізалятары часовага ўтрымання на завулку Акрэсціна.

ХАМАС абверг датычнасць да гісторыі з бортам Ryanair, а таксама асудзіў Мінск за ўцягванне Палесціны і Ізраіля ў канфлікт. Прэзідэнт ЗША **Джо Байдэн** назваў затрыманне Пратасевіча «ганебнай атакай на палітычнае іншадумства і свабоду прэсы». Саміт Еўрасаюза прыняў некалькі рашэнняў з нагоды пасадкі самалёта Ryanair у Мінску: еўрапейскія кампаніі больш не будуць лятаць праз Беларусь, уводзіцца новы пакет эканамічных санкцый.

Раман Пратасевіч знаходзіўся па-за межамі Беларусі з канца 2019 года. Ён працаваў разам са **Сцяпанам Пуцілам** у рэдакцыі тэлеграм-канала, які цяпер прызнаны экстрэмісцкім.

У Беларусі Пратасевіч унесены ў спіс асоб, датычных да тэрарыстычнай дзейнасці. У лістападзе 2020 года мужчыну завочна прад'явілі абвінавачанне па трох крымінальных артыкулах: арганізацыя масавых беспарадкаў, грубае парушэнне грамадскага парадку і распальванне сацыяльнай варожасці.

**Аддзел інфармацыі.**

### Арыштаваныя па «справе TUT.by» прызнаныя палітзняволенымі

25 мая беларускія праваабарончыя арганізацыі выступілі з сумеснай заявай у датычнасці да «справы TUT.by».

Беларускія праваабаронцы прызналі **Людмілу Чэкіну, Марыну Золатаву, Вольгу Лойку, Ірыну Рыбалку, Алену Талкачову, Анжэлу Асад, Марыю Новік, Алу Лапатку, Аляксандру Дайнэку, Андрэя Аўдзеева, Сяргея Паваліšава, Дар'ю Данілаву, Юлію Чарняўскую, Кацярыну Ткачэнку, Ірыну Касцючэнку** палітычнымі зняволенымі. Яны патрабуюць іх неадкладнага вызвалення.

Нагадаем, 18 мая Дэпартамент фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю правёўператрусы ў рэдакцыі і журналістаў TUT.by. У дачыненні да службовых асоб ТАА «ТУТ БАЙ МЕДЫА» распачалі крымінальную справу аб ухіленні ад падаткаў у асабліва буйным памеры.

**Аддзел інфармацыі.**

### Паўлу Севярынцу прысудзілі сем год зняволення

25 мая ў Магілёве завяршыўся закрыты суд па крымінальнай справе аб арганізацыі масавых беспарадкаў.

**Паўлу Севярынцу, Яўгену Афнагелю, Андрэю Войнічу** далі сем год калоніі ўзмоцненага рэжыму. **Паўла Юхневіча, Дзмітрыя Казлова** і **Максіма Вінярскага** асудзілі да пяці год калоніі. **Ірына Шчасная** атрымала чатыры гады калоніі агульнага рэжыму. Усіх абвінавачвалі ва ўдзеле альбо арганізацыі масавых беспарадкаў.

**Аддзел інфармацыі.**

### У шклоўскай калоніі памёр палітвязень Вітольд Ашурак

Палітвязень з Бярозаўкі **Вітольд Ашурак**, якому 18 студзеня ў Лідзе на закрытым працэсе прысудзілі пяць гадоў калоніі агульнага рэжыму, памёр у шклоўскай калоніі. Яму было 50 гадоў.

Ашурак быў сябрам партыі БНФ, каардынатарам руху «За Свабоду». Прычынай смерці называюць спыненне сэрца.

З Вітольдам Ашуркам развіталіся ў сераду, 26 мая.

**Паводле «Нашай Нівы».**

# У Маладзечне зладзілі тэатральную ноч музеяў

**21 мая Мінскі абласны краязнаўчы музей ператварыўся ў тэатр. Тут можна было наведаць тэатральны буфет, пераапрануцца ў касцюмы, зрабіць бутафорскія рэчы, пабачыць пастаноўкі і сустрэцца з акцёрамі.**


Падчас сустрэчы вядучых майстроў сцэны Мінскага абласнога драматычнага тэатра Алены Рахмангулавай і Алега Чэчанева з гледачамі.

Усё гэта адбывалася ў межах міжнароднай акцыі «Ноч музеяў».

### Што адбывалася ў музеі

Вечарам 21 мая маладзечанцы і госці горада завіталі ў музей з сябрамі або сем'ямі. Заняць сябе маглі людзі рознага ўзросту і зацікаўленасцяў. Ля ўвахода можна было змайстраваць уборы для папяровых лялек або пачаставацца прысмакамі з тэатральнага буфета. Ахвотныя маглі прымераць на сябе вобразы розных персанажаў у касцюмернай зоне, дапоўніць вобраз аквагрымам і зрабіць фота. На іншай пляцоўцы мастакі вучылі ствараць бутафорскія рэчы, якія могуць спатрэбіцца ў пастаноўках. На заднім дворыку музея акцёры «Батлейкі» зладзілі для дзяцей рухомую гульнявую праграму.

На другім паверсе музея размясцілі выставу «Тэатральныя замалёўкі». Тут можна пабачыць афішы розных гадоў, уборы, дэкарацыі і нават акуляры з адной дужкай былога мастацкага кіраўніка драмтэатра **Юрыя Вуты**.

У зале пастаяннай выставы «Прырода Міншчыны» размясцілі пляцоўку, дзе можна было пазнаёміцца з лялькамі маладзечанскай «Батлейкі». Дзеці маглі адначасова пабачыць пудзілы розных жывёл і персанажаў лялечнага тэатра. Акцёры зладзілі праграму для дзяцей, дзе знаёмілі з тыпамі лялек, дэманстравалі, як з імі працаваць, і прапаноўвалі паспрабаваць іх ажывіць дзецям.

У зале пастаяннай экспазіцыі «Гісторыя Міншчыны» навучэнцы гімназіі-каледжа мастацтваў паставілі ўрыўкі з п'ес, а пасля наведнікаў чакала сустрэча з акцёрамі драматычнага тэатра **Аленай Рахмангулавай** і **Алегам Чэчаневым**.

Прадстаўнікі ваенна-гістарычнага клуба «Нашчадкі» правялі дэманстрацыю ўбору салдат расійскай імператарскай арміі падчас вайны з Напалеонам і салдата Першай сусветнай вайны. Сярод узбраення прадстаўніка Першай сусветнай была сапёрная лапатка, якую адшукалі падчас раскопак – яна або выратавала жыццё салдату, або ён не выжыў.


Дырэктар Мінскага абласнога краязнаўчага музея Алена Чарнецкая.


Гульнявая праграма з лялькамі і акцёрамі Мінскага абласнога тэатра лялек «Батлейка».

### Якія ў Маладзечне гледачы

Падчас сустрэчы з гледачамі вядучыя майстры сцэны Мінскага абласнога драматычнага тэатра Алена Рахмангулава і Алег Чэчанеў дзяліліся разважаннямі пра прафесію і прыгадвалі розныя сітуацыі з выступленняў.

Яны расказалі, што для любога акцёра балючы той момант, калі перастае выходзіць на сцэну. Рахмангулава сказала, што цяпер у зале мала гледачоў, а летась быў досвед, калі з-за каронавіруса ладзілі анлайн-пастаноўкі на камеру. Такі досвед быў вельмі няпросты для тых, хто прывык працаваць з публікай. «Глядач – гэта паветра, якое нам неабходнае» – падзялілася актрыса.

Як знакавую ролю Рахмангулава адзначыла Ганну з пастаноўкі па п'есе Дударава «Вечар». Калі гэту ролю далі, жанчыне было 32 гады, і паказваць 80-гадовую бабулю было не проста. Актрыса нават думала, што прафнепрыгодная, раз не можа на ўзроўні паказаць персанажа. Але пасля ўсё атрымалася. І Рахмангулава, і Чэчанеў атрымалі статус вядучых майстроў сцэны за ролі ў «Вечары», што было рана для іх узросту.

Чэчанеў расказаў, што восенню маладзечанцаў чакае прэм'ера – дэтэктыў пра беларускага Шэрлака Холмса.

Адзначылі, што ў Маладзечне вельмі добрая моладзь. Падчас гастроляў у Мінску ў акцёраў гледачы кідалі паперкі – нават не хацелі дайграваць спектакль. Усё ж вырашылі дапрацаваць, але на паклон не выйшлі. У Маладзечне ж гледачы зусім іншыя, працаваць для якіх – задавальненне.

### Наведнік стаў дзеючай асобай

Пра падрыхтоўку «Ночы музеяў» расказала дырэктар Мінскага абласнога краязнаўчага музея **Алена Чарнецкая**:

– У гэтым годзе наш драматычны тэатр адзначаў сваё 30-годдзе, а ў мінулым годзе наш тэатр лялек «Батлейка» таксама адзначаў 30-годдзе. На тэму ночы музеяў юбілеі і натхнілі, тым больш, што мы пастаянна супрацоўнічаем з тэатрамі. Таму на сённяшні вечар мы ператварылі наш музей у тэатр. Тэатр увогуле аб'ядноўвае розныя мастацтвы. Тут і танец, і песня, і літаратура. А ў музеі заўсёды пануе атмасфера мастацтва. Запрасілі акцёраў паказаць тэатральныя пастаноўкі, адбылася сустрэча з акцёрамі тэатра. Касцюмерная, дзе можам пераапрануцца, схадзіць у тэатральны буфет, наведаць бутафорскую майстэрню. Распрацаваць усё цэласна і разнастайна было не вельмі складана. Мы ж усе разумеем, што ў тэатры адбываецца. Спадзяюся, што наша задума атрымалася. Гасцям было чым заняцца. Была мэта, каб сённяшні наведнік адчуў сябе не проста назіральнікам, а акунуўся ў атмасферу, пабыў дзеючай асобай.


Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

# У ФК «Астравец» і «Маладзечна» ўжо дзве перамогі ў Кубку Беларусі па футболе

**На мінулых выхадных футбалісты «Астраўца» і «Маладзечна» перамаглі сваіх канкурэнтаў у першым этапе, ці 1/64 Кубка Беларусі. «Астравец» змог выстраліць пасля грубай гульні саперніка і папярэджанняў у бок афіцыйных асоб, а «Маладзечна» забівае сем мячоў ужо ў другім матчы запар. «Рэгіянальная газета» расказвае, як прайшлі кубкавыя матчы ў камандаў рэгіёна.**




Футбаліст «Маладзечна» Раман Вінцукоўскі (у цёмнай форме) атрымаў траўму галавы, аднак усё роўна працягнуў гульню.

### «Астравец» у складаным матчы перамагае Гродна

23 мая «Астравец» сустрэўся з гродзенскай камандай «ЖКГ» у рамках 1/64 Кубка Беларусі. Сустрэча пачалася з нерэалізаванага пенальці **Кірыла Бязносіка** на 23-й хвіліне гульні, а да гэтага астраўчанам таксама прабівалі пенальці, але вароты абараніў галкіпер **Вячаслаў Камінскі**. Да перапынку на полі нічога звышнатуральнага не адбылося: галы пачалі забіваць толькі ў другім тайме.

На 72-й хвіліне арбітры выдалілі з поля **Аляксандра Базэя** за грубую гульню. Футбаліст у гульнявым моманце не згуляў у мяч. Базэй ударыў футбаліста «Астраўца» прамой нагой у пахвіну. Яшчэ праз некалькі хвілін арбітр быў вымушаны папярэдзіць афіцыйных асоб «ЖКГ». Галоўны трэнер **Юры Чэкан** і кіраўнік каманды **Павел Акуліч** атрымалі папярэджанні за не спартыўныя паводзіны (не пагадзіліся з рашэннем рэферы).

На 85-й хвіліне Кірыл Бязносік забівае першы матч у гульні. А ў дадатковы час футбаліст «ЖКГ» **Вадзім Хільмановіч** забівае гол у свае вароты. «Астравец» заканчвае матч на сваю карысць – **2:0**.

### «Маладзечна» знічшае «Фалько»

22 мая «Маладзечна» згуляла ў 1/64 Кубка Беларусі супраць чаркаскага «Фалько» на полі саперніка. Гульня пачалася з дамінавання футбалістаў «Фалько». Ужо на 10-й хвіліне гулец з Чаркасаў **Ягор Ляшчынскі** забівае першы гол у матчы. Менш чым праз дзесяць хвілін форвард маладзечанскай каманды **Сяргей Кошаль** зраўняў лік на табло. Напрыканцы першага тайма яшчэ адзін нападнік з Маладзечна **Раман Бурак** павялічвае разрыў паміж камандамі і робіць – **2:1**.

Пасля перапынку маладзечанскі паўабаронца **Дзмітры Сярогін** забівае трэці гол для сваёй каманды. На гэта адказвае голам гулец «Фалько» **Аляксей Салавей** – ён змяншае адрыў чаркаскага клуба.

На 72-й хвіліне абаронца **Арцём Грыб** забівае чацвёрты гол для маладзечанскай каманды. Лік **5:2** робіць Дзмітры Сярогін, які аформіў дубль у гэтым матчы. Напрыканцы матча два галы запар забіў **Мікіта Мятліцкі**.

> Маладзечанцы скончылі гульню з лікам 7:2 на сваю карысць.

Такім чынам, ФК «Маладзечна» праходзіць у наступны этап Кубка Беларусі, у 1/32.

### «Ашмяны» вылятаюць з Кубка

Яшчэ адной камандай з нашага рэгіёна, якая змагалася ў Кубку Беларусі, сталі «Ашмяны». Яны згулялі супраць скідзельскага «ФСК Гродзенскі». Сапернікі забілі на 14-й хвіліне – адзначыўся **Уладзіслаў Кузьміч**. «Ашмяны» зраўнялі лік толькі ў другім тайме намаганнямі абаронцы **Андрэя Момата**. У дадатковы час «ФСК Гродзенскі» вырваў перамогу, забіў паўабаронца **Максім Амплееў**. Такім чынам, «Ашмяны» прайгралі з лікам **1:2** і далей не будуць працягваць барацьбу за Кубак Беларусі.

Кубкавыя матчы ў камандаў пройдуць ужо на гэтым тыдні. 29 мая ў 1/32 «Астравец» згуляе супраць «Баранавічаў», а маладзечанцаў 30 мая чакае матч з «Асіповічамі».

26 мая ў чэмпіянаце другой лігі «Астравец» згуляе супраць «ФСК Ашмянскі», а 2 чэрвеня «Маладзечна» сустрэнецца з «Крупкамі».

**Настасся УТКІНА.**

---

## У «Віліі» першая перамога ў другой лізе

22 мая вілейскія футбалісты згулялі супраць «Беразіно» ў чэмпіянаце другой лігі. Гэты матч павінны былі гуляць толькі ў сёмым туры, аднак яго перанеслі на кубкавыя выхадныя. У гэты дзень вілейчукі і бярэзінцы былі свабодныя ад кубкавых супрацьстаянняў і змаглі згуляць перанесеную сустрэчу.

Вілейчукі перамаглі ў сустрэчы з вельмі буйным лікам – **11:0**. Гекса-трык (шэсць галоў) забіў **Максім Вітко**, дубль аформіў **Віктар Сяліцкі**, па адным голе забілі **Аляксей Вышынскі**, **Юры Малько**, **Дзмітры Кручкоў**. У камандзе «Беразіно» адзначыўся **Антон Богач**.

2 чэрвеня «Вілія» згуляе ў трэцім туры другой лігі супраць «Фалько». Цяпер вілейская каманда знаходзіцца на сёмым месцы з дзесяці ў турнірнай табліцы.

**Настасся УТКІНА.**

## «Смаргонь» прайграла жодзінскаму «Тарпеда»

22 мая смаргонская каманда прайграла чарговую сустрэчу ў вышэйшай лізе чэмпіянату Беларусі па футболе. Футбалісты пад кіраўніцтвам **Вячаслава Герашчанкі** сустракаліся з жодзінскім «Тарпеда-БелАЗ».

На 25-й хвіліне з пенальці адзначыўся гулец «Смаргоні» **Уладзіслаў Яцкевіч**. У другім тайме тройчы забілі жодзінцы: на 57-й – **Андрэй Хачатуран**, на 68-й хвіліне забіў **Мікіта Мікалаевіч**, а апошні гол у матчы быў ад **Паўла Кляньё**. Усе галы жодзінцаў былі забітыя з перадач **Міхаіла Афанасьева**.

Смаргонцы займаюць перадапошняе месца ў турнірнай табліцы. Матч 11 тура «Смаргонь» правядзе супраць «Віцебска» 28 мая ў 18:10.

**Настасся УТКІНА.**

## 15-гадовая ашмянка заняла пятае месца на чэмпіянаце па цяжкай атлетыцы

Ад 18 да 22 мая ў Гродне праходзіў чэмпіянат Беларусі па цяжкай атлетыцы сярод дарослых. У спаборніцтвах удзельнічала 15-гадовая ашмянка **Лізавета Матарас**, расказаў «Рэгіянальнай газеце» трэнер **Міхаіл Станкевіч**.

Для дзяўчыны гэта першы турнір у дарослым дывізіёне і першы выхад на памост з майстрамі спорту.

Матарас заняла пятае месца на чэмпіянаце па цяжкай атлетыцы.

**Аддзел інфармацыі.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Загана, недахоп.
2. Перапынак у занятках, працы і пад. для аднаўлення сіл.
3. Зварот да каго-небудзь з заклікам задаволіць патрэбы, жаданні.
5. Скульптурны вобраз чалавека або жывёліны, які звычайна размяшчаецца на пастаменце.
7. Асоба жаночага полу ў адносінах да сваіх бацькоў.
10. Вылучэнне складу ў слове сілай голасу або павышэннем тону, а таксама значок над літарай, які паказвае яе вылучэнне.
11. Пункт погляду, думка, прынцыповыя адносіны.
12. Упрыгожанне з кветак або галінак, сплеценых у кружок.
13. Асобны гук пэўнай вышыні ў музыцы і спевах.
16. Абрыс, від збоку.
17. Мноства чаго-небудзь скіданага, зваленага ў беспарадку.
19. Тое, што неабходна выканаць, вырашыць.
20. Адкрытая або зашклёная тэраса ўздоўж сцяны дома.
21. Плоскі, адносна шырокі і нятоўсты кавалак дрэва, выпілаваны або вычасаны з бервяна.
23. Войска, высаджанае на тэрыторыю праціўніка для баявых дзеянняў.
25. Агароджанае пад адкрытым небам месца для жывёлы.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
4. Прынятыя за аснову ўзор, мадэль, эталон.
6. Пачуццё моцнай варожасці, непрыязнасці.
8. Узнаўленне сродкамі мастацтва вонкавага, пачуццёва-канкрэтнага аблічча з'яў рэчаіснасці.
9. Поспех у змаганні.
12. Навучэнец пачатковай або сярэдняй навучальнай установы.
14. Тонка ссуканая пража, якая выкарыстоўваецца для шыцця, вязання.
15. Тайнае пагадненне некалькіх асоб аб сумесных дзеяннях для дасягнення пэўных палітычных мэт.
17. Даручэнне або просьба зрабіць, выканаць.
18. Атмасфера, якая бачная з зямлі – прастора ў форме купала, скляпення.
20. Пасудзіна цыліндрычнай формы з дужкай, у якой носяць або захоўваюць ваду і іншыя вадкасці.
22. Выбарны прадстаўнік, член выбарнай дзяржаўнай установы.
24. Тэрмін, на працягу якога чалавек працуе або набывае спецыялізацыю.

## Адказы на крыжаванку з №21

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** Галоп. 2. Насенне. 4. Тракт. 6. Транспарт. 7. Тварог. 8. Нафта. 10. Адчай. 14. Гарнір. 15. Барыкада. 16. Тост. 17. Амазонка. 19. Дазвол. 22. Гадзіна. 23. Балкон. 25. Дзед. 27. Тапчан.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 3. Адхон. 5. Нектар. 9. Насмарк. 11. Дзірван. 12. Багна. 13. Гастролі. 15. Бунт. 18. Грыва. 20. Атака. 21. Асобна. 23. Балада. 24. Далей. 26. Нетры. 28. Дворнік.

## ● ГАРАСКОП НА 28 МАЯ – 3 ЧЭРВЕНЯ



**АВЕН.** У асабістым жыцці наступіць доўгачаканае зацішша. Трымайце сябе ў руках, каб зноў не парушыць ідылію. Перыяд добры для таго, каб будаваць новыя планы і прадумваць шляхі іх рэалізацыі. Толькі пакуль нікому не расказвайце пра свае мэты.



**ЦЯЛЕЦ.** На працы можа абвастрыцца канкурэнцыя. На жаль, вы рызыкуеце застацца без справы. Не спрачайцеся, а лепш выдаткуйце энергію на падтрыманне ўнутрысямейных адносін. Будзьце мякчэйшыя са сваякамі. Усе прапановы, якія будуць паступаць, абмяркоўвайце са спецыялістамі.



**БЛІЗНЯТЫ.** Парады ад людзей з большым досведам успрымайце ўсур'ёз. Яны дапамогуць прыняць правільнае рашэнне. Выхадныя правядзіце ў сямейным коле. Гэта дапаможа аднавіць згубленую роднасную сувязь.



**РАК.** За складаныя справы бярыцеся толькі ў тым выпадку, калі вам ёсць на каго спадзявацца. Ад некаторых задач прыйдзецца адмовіцца. Грошы, якія дасце ў доўг, вернуцца не хутка. Але даць іх усё ж давядзецца, калі хочаце захаваць сяброўства.



**ЛЕЎ.** Могуць з'явіцца праблемы, якіх вы не чакалі. Не дазваляйце эмоцыям узяць верх. Адпачыць зможаце ў выхадныя.



**ДЗЕВА.** З'явіцца шанец вырашыць старыя сямейныя праблемы. Не ўпусціце яго! Перыяд спрыяльны для паездкі і ўдзелу ў забаўляльных мерапрыемствах. Шматабяцальныя знаёмствы чакаюць вас.



**ШАЛІ.** Трымаць сябе ў руках будзе не так проста. Жаданне палаяцца можа перашкодзіць спакойна перажыць гэты час. Каб разрадзіць абстаноўку, адпраўляйцеся за горад – напрыклад, на лецішча. Адпачніце, выпусціце пару, набярыцеся сіл.



**СКАРПІЁН.** Без кампрамісаў у дадзены перыяд будзе не абысціся. Не бойцеся першымі ісці на прымірэнне, калі шануеце адносіны з блізкімі. З боку добрага сябра магчымая здрада. Аднак не спяшаецеся выкрэсліваць яго з жыцця. Дайце шанец усё выправіць.



**СТРАЛЕЦ.** Цяпер выдатны час, каб пачаць актыўна даглядаць за сабой. Вы нават можаце кардынальна змяніць вобраз. У любой сітуацыі лепш спачатку падумаць, а ўжо потым з галавой акунацца ў свет эмоцый.



**КАЗЯРОГ.** Новыя ўражанні і яркія эмоцыі чакаюць вас у бліжэйшы тыдзень. Дайце сабе адпачыць і зарадзіцца энергіяй на доўгі час наперад – вам гэта неабходна. Крыху азмрочаць гэтыя дні праблемы з дзецьмі. Вырашайце іх на халодную галаву або зусім адкладзіце прыняцце рашэння на потым.



**ВАДАЛЕЙ.** Над некаторымі прадстаўнікамі знака навісне рызыка здрады. Прыгледзьцеся да партнёра, каб зразумець, ці ў небяспецы ваш саюз. Звярніце ўвагу на здароўе. Штосьці турбуе? Тут жа звяртайцеся да доктара.



**РЫБЫ.** У вас з'явіцца шанец набыць каштоўны досвед. Так, гэта можа быць не проста, але вы з усім справіцеся. Больш праводзьце часу з другой паловай, каб умацаваць вашы адносіны.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 7 | 5 | | 3 | 6 | 9 | | |
| | 1 | | | 8 | 2 | | 6 | |
| | | | | | | | 1 | 3 |
| | | 9 | | 6 | 4 | | | 8 |
| | | 4 | 8 | | | | | 9 |
| | | | | 2 | 5 | | | |
| | | 1 | 6 | | | | | 2 |
| 2 | | | 7 | | | 4 | 8 | |
| | 3 | | | 4 | | | | 7 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

Рэгіянальная газета. Rh.by



# Каля чыгуначнага вакзала ў Вілейцы знайшлі рэшткі старой польскай дахоўкі

**Днямі віляйчук Дзяніс Канецкі знайшоў ля воданапорнай вежы каля чыгуначнага вакзала ў Вілейцы рэшткі старой дахоўкі, а на некаторых кавалках – надпісы па-польску.**

– У пачатку 20 стагоддзя побач з вакзалам была воданапорная вежа. Яна моцна пацярпела падчас Першай сусветнай. У сваім артыкуле гісторык **Андрэй Каркотка** піша, што падчас бою ў верасні 1915 года ў вежы размяшчаліся артылерыйскія назіральнікі, якія карэктавалі агонь. Па вежы страляла варожая артылерыя, вось дах будынка і пацярпеў, – кажа Дзяніс.

Суразмоўца мяркуе, што знойдзеныя рэшткі могуць быць дахоўкай ад той самай вежы.

Па пячатцы краязнаўцы высветлілі, што дахоўку выпусцілі ў цагельні «Зомбкі» побач з Варшавай. У 1905 – 1945 гадах маёнткам Зомбкі і цагельняй валодаў **Адам Ронік'ер** – архітэктар, грамадскі і палітычны дзеяч. У 1945-м з'ехаў з Польшчы. Памёр у ЗША ў 1952 годзе. У 2009-м яго прах перанеслі ў Польшчу і перапахавалі ў сямейным склепе.

– Ёсць пытанне, як польская дахоўка трапіла ў Вілейку. Магчыма, яе можна было танна набыць і прывезці. А магчыма, у кагосьці з вілейчукоў сваякі працавалі ў Польшчы, – дзеліцца меркаваннямі Дзяніс.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота Дзяніса КАНЕЦКАГА.

Знаходка.

# Чытайце праз тыдзень:

- Першакласнікі з сярэдняй школы №8, што ў Маладзечне, разам з настаўніцай і бацькамі стварылі «Музей у чамадане». Дзеці знайшлі старыя сямейныя рэчы і даведаліся гісторыі пра іх.

## 29 мая, субота

**Вецер:** паўночна-заходні, 4 м/с




Паводле rp5.by.

## Грэйцеся вясновым сонейкам і навінамі «Рэгіянальнай газеты»!

**Каб быць у курсе навін рэгіёна, чытаць жыццёвыя гісторыі і кожны тыдзень даведвацца нешта новае пра мінулае нашага Павілля, вам не трэба будзе хадзіць па «Рэгіянальную газету» штопятніцы, каб купляць у розніцы.**

**Газету з аб'ектыўнай інфармацыяй на роднай мове прынясуць у паштовую скрыню.**

### Падпісацца на «РГ» можна заўжды:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Зарэгіструйцеся на сайце **belpost.by.** У асабістым кабінеце карыстальніка дадайце ваш адрас, а пасля зайдзіце ў акно «Інтэрнэт-падпіска», абярыце «Да каталогу». У акне «Пошук па выданнях» увядзіце назву нашай газеты ці індэкс 63212. Цісніце на спасылку «Рэгіянальнай газеты», якая з'явіцца. Або адскануйце QR-код.



У меню абярыце індывідуальную ці ведамасную падпіску, перыяд выпіскі выдання.

✓ **на пошце**

✓ **праз паштальёна**

✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі**, рублёў:

- на месяц – 5.19 / 3.86 (з дастаўкай на адрас падпісчыка / на абаненцкую скрыню або да запатрабавання),
- на квартал – 15.57/11.58.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 16.99 / 15.39,
- на квартал – 50.97 / 46.17.

**ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:** *63212 (індывідуальная)* *632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

# Прыгадайце гісторыю якога-небудзь палёту на самалёце

«Рэгіянальная газета» запыталася ў чытачоў з Маладзечаншчыны, якія гісторыі пра палёты на самалёце яны памятаюць.



**Уладзімір Садоўскі, Маладзечна:**

– Апошні раз лятаў у 1992 годзе, калі мне было пяць гадоў. Ляцелі з Ерэвана ў Вільню. Бацька быў ваенным доктарам у вайсковай часці ў Ахалкалаках, яе расфарміравалі, а бацьку дэмабілізавалі, сям'я вярнулася ў Беларусь. У Вільні нас забрала бабуля на службовай машыне і прывезла ў Маладзечна.



**Аляксей Ліс, Краснае, Маладзечанскі раён:**

– Прыкладна з месяц таму размаўляў са знаёмай. У яе на сёння прыкладна ўжо 100 пералётаў – гэта за апошнія дзесяць гадоў. Стаў падлічваць свае і неяк моцна не ўразіла, толькі дзясятакналічыў. Але як высветлілася, затое першы раз я ляцеў у СССР.

# Што здарылася з авіяпералётамі ў Беларусі і ўплыў на турызм

23 мая рэйс кампаніі «Рэйнэйр» Афіны-Вільня экстранна пасадзілі ў Мінску з-за паведамленняў аб мініраванні самалёта. Падрабязнасці чытайце на старонцы 8.

Еўрапейскія краіны і ЗША ўвялі часовыя забароны на перамяшчэнні беларускіх самалётаў у сваёй паветранай прасторы і таксама рэкамендавалі пазбягаць паветранай прасторы Беларусі. Гэта Вялікабрытанія, Германія, Францыя, Нідэрланды, Венгрыя, Латвія, Літва, Польшча, Фінляндыя, Чэхія, Швецыя, Чарнагорыя і Украіна.

Колькасць краін, якія абмяжоўваюць рух у сваёй паветранай прасторы для беларускіх бартоў, расце з кожным днём. У сваю чаргу «Белавія» закрывае рэйсы ў кірунку гэтых краін.

Ад 2017 года, згодна са статыстычным зборнікам «Беларусь у лічбах» Нацыянальнага статыстычнага камітэта, колькасць турыстаў у Беларусь павялічваецца, як і колькасць беларускіх турыстаў, што вандруюць за мяжой. У 2020 годзе колькасць турыстаў рэзка зменшылася з-за пандэміі каронавіруса. Узімку 2021 года беларуская ўлада ўвяла падатак (1 базавая велічыня – 29 рублёў) на выезд за мяжу для людзей, што выязджаюць з тэрыторыі Беларусі на аўтамабілях. Такі падатак уведзены ў Гродзенскай, Брэсцкай, Гомельскай абласцях.

### Колькасць замежных турыстаў, якія наведалі Беларусь (у тысячах чалавек)




### Колькасць турыстаў – грамадзян Беларусі, якія выехалі за мяжу (у тысячах чалавек)




Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№22 (1361) 28.05.2021. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 887. Падпісана ў друк у 9.00 27.05.2021.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.